# СМІ ў Беларусі

ЭЛЕКТРОННЫ БЮЛЕТЭНЬ

КАСТРЫЧНІК–СНЕЖАНЬ 2015

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»

WWW.BAJ.BY




Фота: Васіль Фядосенка

*У Беларусі змены заўсёды адбываюцца па прынцыпе “адзін крок наперад – два назад”... Нам патрэбныя не касметычныя змены, а сістэмныя рэформы беларускага медыя-заканадаўства.*

*Міхась Янчук,*
*намеснік старшыні ГА “БАЖ”*



# СТАНОВІШЧА Ў СФЕРЫ СМІ Ў КАСТРЫЧНІКУ–СНЕЖНІ 2015 г. (АГЛЯД)

16 кастрычніка ў Беларусі адбыліся прэзідэнцкія выбары.

Паствыбарчы перыяд не ўнёс істотных зменаў у становішча ў галіне сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі. Чарговая падпісная кампанія на друкаваныя выданні прайшла ва ўмовах дыскрымінацыі незалежных газетаў. Пры гэтым была працягнутая практыка бюджэтнага фінансавання дзяржаўных медыяў (на пазаконкурснай аснове), іх адміністрацыйнай падтрымкі ды іншых прывілеяў з боку ўлады. Сярод найбольш трывожных падзеяў – новая хваля адміністрацыйнага пераследу журналістаў за супрацу з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Пакуль невядома, ці з'яўляюцца новыя пратаколы супраць журналістаў у Гомельскай вобласці мясцовай ініцыятывай або сведчаць пра вяртанне да ранейшай палітыкі на рэспубліканскім узроўні.



Фота: Васіль Фядосенка

У цэнтры ўвагі журналістаў і СМІ напрыканцы 2015 года было ўручэнне Нобелеўскай прэміі па літаратуры беларускай пісьменніцы Святлане Алексіевіч. Пры гэтым дзяржаўныя тэлеканалы цырымонію ўручэння Нобелеўскай прэміі не паказвалі.

# АСНОЎНЫЯ ПАДЗЕІ Ў СФЕРЫ СМІ Ў КАСТРЫЧНІКУ – СНЕЖНІ 2015 г.

## НЯРОЎНЫЯ ЎМОВЫ ПРАВЯДЗЕННЯ ПАДПІСНОЙ КАМПАНІІ 2016 г.

Падпісная кампанія на перыядычныя друкаваныя выданні, якая адбывалася напрыканцы 2015 г., прадэманстравала няроўныя ўмовы гаспадарання для дзяржаўных і недзяржаўных СМІ. У той час як рэдакцыі некалькіх недзяржаўных медыяў («Газета Слонімская», «Intex-пресс», "СН плюс. Свободные новости плюс" і інш.) атрымалі адмовы ад дзяржаўнага прадпрыемства-манапаліста "Белпошта" на просьбу ўключыць іх выданні ў падпісны каталог, падпіска на дзяржаўную прэсу праводзілася з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу.


МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
АДМІНІСТРАЦЫЯ ЛЕНІНСКАГА РАЁНА Г. МІНСКА
вул. Маякоўскага, 83, 220006, г. Мінск
тэл. (017) 223 52 07, факс 223 52 07,
р/р 360401348519 у аддзяленні №535
ААТ «Белінвестбанк», код 739

МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
АДМИНИСТРАЦИЯ ЛЕНИНСКОГО РАЙОНА Г. МИНСКА
ул. Маяковского, 83, 220006, г. Минск
тел. (017) 223 52 07, факс 223 52 07,
р/с 360401348519 в отделении №535
ОАО «Белинвестбанк», код 739

11.11.2015 № 07/бн
На № ад

Руководителю
(по списку)

О предоставлении информации

С целью обеспечения достоверного информирования граждан о социально-экономическом развитии Республики Беларусь и в связи с началом подписной кампании на 1-ое полугодие 2016 года, администрации Ленинского района г.Минска просит Вас организовать подписку на основные республиканские и городские печатные издания:

- «Советская Белоруссия» (индекс 63150, стоимость – 966000 руб.);
- «Минский курьер» (индекс 63117, стоимость – 510000 руб.);
- «Рэспублика» (индекс 63883, стоимость –966000 руб.);
- «Народная газета» (индекс 638682, стоимость - 900000 руб.);
- «Звязда» (индекс 63858, стоимость 966000 руб.);
- «Вечерний Минск» (индекс 638812, стоимость 270000 руб.).

**Подписку на печатные издания вы можете оформить в отделениях почтовой связи, торговых объектах РУП "Белсоюзпечать", через систему "Интернет подписка", а также при помощи платежно-справочных терминалов. Контактный телефон для подписки на издания РУП «Белпочта» 293 55 95. Телефон для справок по вопросам "Интернет-подписки": 327 75 27.**

Для анализа итогов подписной компании просим предоставить копию платежного поручения (квитанции), подтверждающую осуществление подписки Вашей организации в администрацию Ленинского района г.Минска до 11.12.2015 по тел/факсам: 223 05 71, 223 81 97, 223 32 51 или email len.econ@minsk.gov.by.

Первый заместитель главы В.В.Вороницкий

07 Кухлевская 223 32 51
11.11.2015 подписка

Так, адміністрацыя Ленінскага раёна г. Мінска "з мэтай забеспячэння дакладнага інфармавання грамадзянаў пра сацыяльна-эканамічнае развіццё Рэспублікі Беларусь і ў сувязі з пачаткам падпіснай кампаніі на 1-е паўгоддзе 2016 года" звярнулася да кіраўнікоў арганізацыяў раёна з просьбай арганізаваць падпіску "на асноўныя рэспубліканскія і гарадскія друкаваныя выданні" паводле спісу і скласці справаздачу па яе выніках.

Паводле паведамленняў праваабарончага рэсурсу mahilyowspring.org, на магілёўскіх заводах супрацоўнікам настойліва раілі падпісацца на мясцовую дзяржаўную прэсу і выдавалі бланкі заяваў на ўтрыманне з заробку работнікаў грошай на падпіску.

Адміністрацыя адкрытага акцыянернага таварыства "Крычаўцэментшыфер" (г. Крычаў, Магілёўская вобл.) загадала кіраўнікам падраздзяленняў арганізаваць падпіску на "кантраляваныя" перыядычныя выданні з указаннем іх назваў і колькасці паасобнікаў, якія маюць быць выпісаныя.

## БЮДЖЭТНАЕ ФІНАНСАВАННЕ ДЗЯРЖАЎНЫХ СМІ

У законе "Аб рэспубліканскім бюджэце на 2016 г." ад 30 снежня 2015 г. прадугледжана вылучэнне каля 45 млн еўра (900 120 843,0 тыс. руб.) на фінансаванне дзейнасці дзяржаўных СМІ. У тым ліку на тэлебачанне і радыёвяшчанне – каля 36,6 млн еўра (734 815 075,0 тыс. руб.), на перыядычны друк і выдавецтвы – каля 3,5 млн еўра (69 154 793,0 тыс. руб.), на "іншыя пытанні ў галіне СМІ" – 4,7 млн еўра (96 150 975,0 тыс. руб.).

**Пры гэтым фінансаванне вылучаецца на пазаконкурснай аснове. Гэтак, 26 дзяржаўных газетаў і часопісаў, якія атрымаюць дапамогу з рэспубліканскага бюджэту ў 2016 годзе, вызначаныя пастановай урада №966 ад 19 лістапада 2015 года.**

## АДНАЎЛЕННЕ ПЕРАСЛЕДУ ЖУРНАЛІСТАЎ ЗА СУПРАЦУ З ЗАМЕЖНЫМІ СМІ

Напрыканцы 2015 г. аднавіўся адміністрацыйны пераслед журналістаў, матэрыялы якіх з'яўляліся ў замежных СМІ.



24 снежня пратакол быў складзены ў дачыненні да гомельскай журналісткі Ларысы Шчыраковай (пратакол быў складзены Гомельскім РАУС без удзелу журналісткі, якая ў гэты час была ў адпачынку). Прычынай для распачынання адміністрацыйнага працэсу ў дачыненні да Ларысы Шчыраковай стаў тэлерэпартаж, які выйшаў на тэлеканале "Белсат" (Польшча) і быў прысвечаны праблемам былога выхаванца школы-інтэрната з пасёлка Урыцкі.

28 снежня два пратаколы паводле ч.2 арт. 22.9 КаАП былі складзеныя ў дачыненні да яшчэ аднога гомельскага журналіста, Кастуся Жукоўскага. Пратаколы склалі пасадовыя асобы Калінкавіцкага і Кармянскага райаддзелаў міліцыі (Гомельская вобласць), таксама ў адсутнасць журналіста. Нараканні выклікалі два сюжэты, паказаныя па тэлеканале "Белсат".

Адмістрацыйны пераслед беларускіх журналістаў за супрацу з замежнымі СМІ без акрэдытацыі пачаўся ў красавіку 2014 г. Журналістаў абвінавачвалі ў парушэнні парадку вырабу і (ці) распаўсюду прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (ч.2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Беларусі).



У 2014 г. былі зарэгістраваныя 10 выпадкаў прыцягнення журналістаў да адказнасці паводле гэтага артыкула, са студзеня па жнівень 2015 г. – 28 выпадкаў.

Становішча змянілася пасля таго, як 4 жніўня прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падчас інтэрв'ю журналістам незалежных СМІ паабяцаў разабрацца ў сітуацыі. З канца жніўня да 24 снежня 2015 г. новых справаў з абвінавачаннем журналістаў паводле ч.2 арт. 22.9 не ўзбуджалася.

# РЭЙТЫНГІ, ІНДЭКСЫ, СТАТЫСТЫКА

9 кастрычніка Прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч павіншавала беларускую пісьменніцу Святлану Алексіевіч з атрыманнем Нобелеўскай прэміі па літаратуры: "Смелы голас Алексіевіч, які быў прызнаны Нобелеўскім журы, значна паспрыяў плюралізму і разнастайнасці думак па праблеме найноўшай гісторыі. Яе нястомныя намаганні з'яўляюцца выдатным прыкладам для незалежных журналістаў у Беларусі і за яе межамі". Прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ падкрэсліла, што прэмія з'яўляецца прызнаннем важнай ролі, якую адыгрываюць у сучасным грамадстве расследаванні, смелыя тэксты і журналістыка.



Праваабарончая арганізацыя Freedom House (ЗША) у сваёй штогадовай справаздачы аднесла Беларусь да ліку краінаў з несвабодным інтэрнэтам.

Справаздача ахоплівае перыяд з чэрвеня 2014 г. па 2015 г. Характарызуючы развіццё сітуацыі з Байнэтам, Freedom House звярнуў увагу на папраўкі да Закона аб СМІ і іншыя юрыдычныя меры, якія значна пашырылі магчымасці ўладаў па абмежаванні крытычнага кантэнту ў інтэрнэце. Акрамя гэтага, у справаздачы ўзгадваюцца блакаванні сайтаў незалежных СМІ, узмацненне адміністрацыйнага пераследу незалежных журналістаў, у прыватнасці, паводле абвінавачання ў працы без акрэдытацыі, выданне дырэктывы, скіраванай на абмежаванне выкарыстання Tor ды ананімайзераў.

